## АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

У лесе пад вялізным пнём
У Барсука быў дом.
Там жыў ён са сваёю Барсучыхай
Лагодна, ціха.
Барсук хадзіў заўжды на паляванне,
Вяртаўся са здабычаю штодня.
Былі і любасць там, і мілаванне.
Жыла, як кажуць, дружная сям'я.
І хоць нічым Барсук не вызначаўся,
Каля яго шумок узняўся:
— Узорны сем'янін! І працаўнік выдатны!
І на ўсе лапкі майстар здатны!
Ніхто да Барсука у лесе не дарос!
Той шум і шырыўся, і рос.
І вось дайшоў ён і да льва, нарэшце,
Магчыма, іншы на ільвіным месцы
І ўвагі б не звярнуў. Ды толькі Леў
На гэта погляд асабісты меў.
— Так, так,— зазначыў цар звяроў,—
выдатны вопыт.
Бяру я на сябе галоўны клопат:
Так на ўвесь лес раззвонім пра яго мы —
Каб быў адразу ўсім вядомы...
Ну, словам, закруцілася машына.
Пайшла ў тым лесе пісаніна.
Леў размаўляў са зверам кожным асабіста.
Падпісваліся усе чыста,
Што, як Барсук, заўсёды
З сям'ёю будуць жыць у згодзе:
Дамоў у час прыходзіць,

*Штодня хадзіць на паляванне,*
*Да рэшты ўсю здабычу жонцы аддаваць*
*І ёй ва ўсім дапамагаць,*
*І берагчы сваё каханне...*

*Прызнацца,*
*Абавязацельствы так пішуцца часамі:*
*На працу — не спазняцца!*
*Штомесяца — выконваць план бяромся самі!*
*Заказчыка — ніколі не падводзіць!*
*Заўжды актыўна выступаць на сходзе!*
*А ўсім вядома без падказкі —*
*То ж кожнага прамыя абавязкі!*

## ДАВЕДКА

Леў напісаў загад,
Што зверанят
Пры родах могуць не прымаць
Яноты-фельчары ды лісы-акушэркі,
Але абавязкова мусяць выдаваць
Ім адпаведныя паперкі,
А без даведак тых нікога не рэгістраваць,
Каб не паблытаць стан звяроў, іх званні.
(На што было асобнае ўказанне
Накіравана ў зверазагс.)
Дарэчы,
Прыйшла вясна, і разліліся рэчкі.
І ў гэты час, нібы на ліха,
Абрадзілася Бабрыха.
І ёй у тым ніхто не дапамог,
Бо да Бабрыхі праз ваду дабрацца аніяк
не змог.
Калі ж вада у берагі вярнулася назад,
Бабёр з Бабрыхаю прыйшлі у зверазагс.
Лісліва іх сустрэў Барсук:
— Ды хто ж у вас — унучка ці унук?
— Сынок! — Бабёр з Бабрыхай адказалі,—
Таму і завіталі,
Барсуча, у тваю мы установу,
Каб нам малога зарэгістраваць.
— Гатоў паслугу вам я аказаць,
Ды толькі атрымаў загад я новы,
Што трэба мець належную паперку
Ад Ліскі-акушэркі,
Што нарадзілася ў вас Бабранё.

— Барсуча, ды пратры свае ты зёлкі.
Глядзі, ды вось жа тут яно,—
Ўзмаліліся Бабёр з Бабрыхай.
— Ды бачу сам, бо маю зрок нядрэнны.
Але ж даведка мне патрэбна.
— Даведка? На якое ліха...
Ды ты, нібы той бюракрат.
— Не гаварыце так! Я быў бы вельмі рад
Прыемнае зрабіць. Магу вось пабажыцца.
Ды толькі б мне даведку ад Лісіцы.
Бабёр з Бабрыхаю тут да Лісы, а тая
Хвастом віляе,
Але наважыла ўсё ж на сваім стаяць:
— Я паважаю вас, Бабры, заўсёды,
Але ж я не прымала роды,
Таму даведку не магу вам даць.
Ідзіце, мо Барсук і так зарэгіструе.
Бабры да Барсука шыбуюць.
Адтуль — зноў да Лісы.
Няхай паходзяць,
Ім гэта не пашкодзіць.

Вось часам бюракрат, калі заварыць кашу,
Дык гора сербанеш тады парадкам —
Бо ўсюды наўтыкае ён рагатак:
Хто ёсць ты сам?
Які узрост і званне?
І мноства разнастайнейшых пытанняў.
Каб адказаць на іх, жыцця бывае малавата,
Забудзеш, ходзячы, і пра сям'ю, пра хату.

# КРЫТЫЧНЫ ХОД

*Ў газеце «Быт жывёлы» Конь*
*Надрукаваў аднойчы фельетон.*
*У ім штукарствы апісаў*
*Казла на ферме,*
*Які займаў пасаду фуражыра.*
*Гаворачы па праўдзе, шчыра,*
*Удала вельмі*
*І ўсё праўдзіва так,*
*Што сказ ні прачытай — дык факт.*
*Казёл на гэта не, не абураўся,*
*А нават у тым-сім і сам прызнаўся.*
*Маўляў, мне на карысць*
*Вось крытыка такая —*
*Памылкі выпраўляць яна дапамагае.*
*А у каго памылак не бывае?*
*Ён на пасадзе утрымаўся.*
*А Конь?*
*Расплачвацца пачаў за фельетон.*
*Казёл яму не даравmember:*
*Ва ўсе інстанцыі заявы напісаў.*
*А ў іх чарніў Каня і так, і сяк,*
*Што той не працаўнік — лайдак*
*Ды сквапны да чужога вельмі:*
*Так і глядзіць,*
*Каб што сцягнуць дзе з фермы.*
*Каня сваёй ён мераў меркай*
*(Калі ж заява ёсць —*
*Дык будзе і праверка).*
*І вось праверка не адна — мо дваццаць:*
*Спрабуюць у паклёпе разабрацца.*

І, ведама,
Нічога не знаходзяць.
А Конь ад тых праверак ледзьве ходзіць —
Яны звялі яго дазвання.
Не вытрымаў тут Конь

І звольніўся «па ўласнаму жаданню».
Жывая крытыка,
Агонь сатыры ў нас
Заўсёды на ўзбраенні!
Але бываюць іншы раз
Яшчэ здарэнні,
Калі, і не маргнуўшы вокам,
На крытыку адказваюць паклёпам.

## ХІТРАЯ ЖУЧКА

*У нейкага Хамы ці Мікалая*
*Жучачка была малая,*
*Ды хітрае такой пароды:*
*Як побач гаспадар, дык зроду*
*І да двара*
*Нікога не падпусціць —*
*Асцерагайцеся, бо ўкусіць!*
*Стараннасці яе тады мяжы няма —*
*Маўляў, тут хлеб свой ем я нездарма.*
*Калі ж няма гаспадара,*
*Дык можна выцягнуць усё з таго двара,*
*Бо Жучкі нібы і няма, здаецца:*
*Не гаўкне і не абзавецца.*

*Ды Жучка што!*
*А вось работнік іншы,*
*Калі начальства тут — такі ўжо ўвішны!*
*Калі ж начальства побач не сядзіць —*
*Ён на рабоце спіць.*

## БАБРЫНАЯ СПРАВА

Для ўтульнасці і для парадку
Бабру ўцяпліць
Спатрэбілася хатку,
Бо дыхала асенняй слотай неба.
Знайшоў і дрэва ён,
якое трэба.
Але каб дрэва тое спілаваць,
Дазвол патрэбна ад Мядзведзя
Атрымаць.
(Мядзведзь загадваў
Лесанарыхтоўчым трэстам.)
— Так, так,—
Мядзведзь сказаў,— урэшце,
Не супраць я,
Ды толькі вось на месцы
Патрэбна дрэва тое нам агледзець...
І па загаду
Ўсё таго ж Мядзведзя
За справу Крот узяўся.
Дзён некалькі пад дрэвам ён капаўся,
Усё агледзеў ён,
не прапусціў нічога.
Прыйшоў да заключэння ён такога:
— Няхай Бабёр спілуе дрэва тое,
Бо ўсё карэнне у яго сухое.
— Яно, магчыма, так,—
Мядзведзь зазначыў,—
Ды трэба ўсё ж пабачыць,
Які у дрэва ствол, якая крона,
Каб нам ні ў чым не прагадаць.

Ствол дрэва будзе
Дзяцел аглядаць,
А крону хай абследуе Варона...

Пакуль камісія птушыная пацела,
Дык дрэва тое спарахнела.

## ВУЗЕЛ

Вядро з Вяроўкаю пасябравалі:
Нібы галубка з голубам, паціху буркавалі.
Ім падпяваў музыка-калаўрот.
Жылі Вядро з Вяроўкай
Без турбот і без прыгод.
Але парушана была аднойчы згода.
Вядро заўважыла:
— Пабыць хачу свабодным
Я хоць раз,
Бо звязаны з табою мы ўвесь час,
А гэта не дае мне ходу.
Сказала так і зачапілася за выступ зруба.
Вяроўка кліча: — Чуеш, не дурэй,
Хадзі сюды хутчэй!
Ці ж я табе не люба?
Мы ж так з табой дружылі,—
І як пацягне! Колькі мела сілы.
Вядро ж ні з месца.
Вяроўка тузанула яшчэ раз
І на сярэдзіне парвалася сама якраз —
Вядро ў прадонне паляцела.
— Ратуйце! —
Толькі закрычаць паспела.
Вядро, вядома, ўратавалі,
Калі канцы Вяроўкі той звязалі.
Цяпер жа і Вядру той вузел замінае —
Чапляецца за калаўрот, ваду ўсю разлівае.

Вось так і з дружбаю:
Калі яна парвецца,
Дык як ні звязвай — вузел застанецца.

## ТАНЦОР

*На наваселлі у Казы пасля застолля*
*Зайгралі музыканты кракавяк.*
*І кожны тут і так, і сяк*
*Сваё умельства паказаць стараўся.*
*Не змог на месцы ўседзець і Вяпрук,*
*У круг і ён прабраўся.*
*Але,*
*Як танцаваць не танцаваў ніколі,*
*То і не ўмеў,*
*А толькі грук ды грук.*
*Вунь Козка аж замэкала ад болю —*
*Бо капыткі ёй адтаптаў Вяпрук.*
*Таго штурхнуў, таго зваліў зусім...*
*Перашкаджаў ён танцаваць усім.*
*Але ў няўмельстве не хацеў прызнацца.*
*А каб хоць неяк апраўдацца,*
*Пачаў ён так:*
*— Не толькі кракавяк*
*Танцую я, яй-богу,*
*З дзяцінства польку,*
*Танга, менуэт...*
*Віною тут — няроўная падлога.*
*(А там жа быў, як шкло, паркет.)*

*Ёсць бракаробы, што, калі дапусцяць брак,*
*Апраўдваюцца так:*
*Ні ў чым я тут не вінаваты:*
*Падвёў мяне станок пракляты.*

## ШКАДЛІВЫ КОТ

Ката прабралі за грашкі
(Ён злізваў з малака вяршкі)
І папярэдзілі сурова,
Што застанецца ў хаце пры адной умове:
Калі больш шкодзіць ён не будзе...
Паклаў тут лапкі Кот на грудзі:
— Шаноўныя мае гаспадары!
Памылкі прызнаю!
Грашыў, чаго таіць, вядома,
Тады, як не было вас дома.
Але вось з гэтай самае пары
Я ні смятаны і ні хлеба
Ніколі не крану, дальбог!..
Крану — пярун няхай ударыць з неба!
Не праганяйце толькі за парог!..
Кату паверылі. Ката пашкадавалі.
Яго спачатку нат не пазнавалі:
На відным месцы
Пакладуць ці мяса, ці сырок —
Пры людзях Кот
І не зірне ў той бок.
І так дзён пяць праходзіць...
На шосты дзень Кот зноў нашкодзіў.
І зноў гаспадары
Ката прабралі...

А лепш, каб гэткіх вось Катоў
Ля установ
Не прыгравалі,
А прэч іх гналі.

## ЛЫСКА І ТРЭЗОР

*Жылі у дружбе Лыска і Трэзор.*
*І вартавалі разам двор,*
*Дзялілі памяркоўна будку,*
*Што у двары тулілася ў закутку.*
*З адной нат елі міскі*
*Трэзор і Лыска.*
*Хоць часам і недаядалі,*
*Затое дужа добра сябравалі.*
*Ды вось аднойчы,*
*Калі на вуліцы трашчаў мароз,*
*Забег да іх на двор Барбос:*
*— Дзе я служу, дык на той склад*
*Вартаўнік патрэбен акурат.*
*Дык, можа б, пажадаў туды Трэзор?*
*— Не, лепш я гэты павартую двор.*
*А на пасаду тую*
*Я Лыску вам рэкамендую.*
*І новую пасаду*
*Наш Лыска атрымаў ля склада.*
*А тут яшчэ прыспела радасць —*
*Зноў па пратэкцыі таго ж Трэзора —*
*Стаў Лыска вартаваць кантору.*
*І рос наш Лыска так,*
*Што неўзабаве нат*
*Уладкаваўся ён на мясакамбінат.*
*Там не жыццё было, а рай!*
*Якую хочаш ежу выбірай.*
*Зажыў там Лыска*
*І забыў свой двор,*
*Дзе жыў яго старэйшы друг Трэзор.*

А той, як давялося туга,
Успомніў і наведаў Лыску-друга,
Каб той яму
Чым-небудзь дапамог,
А Лыска — ведама, зазнаўся, —
З Трэзорам нат не павітаўся
І не пусціў Трэзора на парог.

Вы ад мяне
Мараль пачуць хацелі?
Шукайце між людзей
да байкі паралелі.

## КАРОВА НА ПРЫЁМЕ

*Іван Пятровіч —*
*Старшыня калгаса —*
*Засеў за стол ранюткім часам,*
*Каб зводку у раён падрыхтаваць*
*Па мясу і па малаку, вядома.*
*Ён працаваў да стомы,*
*А лічбы аніяк падтасаваць не мог.*
*Як ні круці — адны прарэхі.*
*А тут, як кажуць, не да смеху:*
*Калі паказчыкі ніжэйшыя, чым летась,*
*То не пахваліць аніхто за гэта.*
*Гарыць, як кажуць, план.*
*— Дзе выйсце? —*
*Засмуціўся старшыня Іван.—*
*Спаслацца на надвор'е, на умовы,*
*Якія выручалі, і не раз?*
*І ў гэты час якраз*
*У кабінет да старшыні зайшла Карова,*
*Замыкала яшчэ з парога,*
*Наставіўшы на старшыню, як пікі, рогі.*
*— Дык вось дзе акапаўся ты, мой мілы?*
*Дзе той сянаж, дзе сілас,*
*Які нам летам*
*Ты абяцаў бесперастанку?*
*Абрыдлі нам твае ўжо абяцанкі!*
*Адказвай! Нацешыліся — годзе!*

*Ці варта тут даводзіць,*
*Што языком паабяцаць*
*Той старшыня заўжды гатовы,*
*Ды толькі малако на языку — ў каровы.*

# ЧАЙКА І ПАМОРНІК

Ішоў аднойчы цеплаход у адкрытым моры.
Ляталі чайкі, чуўся іхні крык.
Між іх шныраў Паморнік —
Вядомы чаек рабаўнік.
Ён быў у чаек на віду
І не выказваў анічым сваіх намераў,
Маўляў, дружыць хачу я з вамі!
Можаце мне верыць!..
Ды тут астаткі ад абеду
выкінулі з камбуза ў ваду.
І чайкі кінуліся ў мора па здабычу.
Адна, спрытнюшчая надзвычай,
Схапіўшы добры мяса кус,
Змяніла тут палёту курс
І кінулася ўбок, што мела сілы.
Паморніка тут быццам падмянілі.
Адразу страціў дружалюбнасць ён —
Пагнаўся за той Чайкай наўздагон.
(Рабаўніка прачнулася натура.)
І ну атакаваць яе,—
То збоку дзеўбане,
То зверху наляціць віхурай,
То заляціць наперад акурат,
То ззаду атакуе, бы пірат.
Пятляла наша Чайка сяк і так,
Не выкруціцца ад Паморніка ніяк.
А ён, злаўчыўшыся, прахвост,
Як хопіць Чайку нашую за хвост,
Што той балюча стала.
І Чайка нема закрычала —

Здабыча з дзюбы паляцела ў мора,
Якую на ляту перахапіў Паморнік,
І тут паласаваўся ёю сам.

«Народны капітал»,
«Зрастанне капіталу з працай»,—
Спрабуюць з-за мяжы перакanaць. Ды нам
Даводзіцца з такой хлусні хіба здзіўляцца,
Ды пасмяяцца, калі мы у гуморы:
Заўжды з сабою капітал прыносіў гора,
Трымае ўчэпіста здабыткі капіталу спрут.
На словах ён, вядома, за працоўны люд,
На справе ж —
дзейнічае так, як той Паморнік.

# НАБОЖНЫ ВОЎК

— Эх, шэры рабаўнік, стары ты стаў, стары!
Хоць і бадзяешся ў бары,
Ды спрыт не той, як гэта ты не ўтойвай,—
Звяры сказалі неяк раз Ваўку.—
Даволі награшыў ты на вяку.
Пара б табе падумаць і пра тое,
Як смерць сваю дастойна стрэціць,
Бо ў пекла можаш трапіць на тым свеце...
А там такіх, як ты, даўно чакаюць...
«Напэўна, правільна яны ўсе разважаюць?—
Падумаў Воўк.— Мне трэба прымірыцца
І за сябе самому памаліцца,
Каб не патрапіць у тым пекле на патэльню...»
І хоць ён зборышчы любіў не вельмі
(Бо воўчую з маленства звычку меў —
Што сам упаляваў, дык тое сам і з'еў),
На гэты раз парушыў звычку ён,
Прыклыпаў сам у малітоўны дом.
Ды вось бяда — малітвы там чытае,
Дык прыкмячае,
Як гэта ўжо было з ім неаднойчы:
Ён богу моліцца, а думае па-воўчы:
Каб дзесьці каля рэчкі
Зарэзаць хоць авечку.

Мілітарыст, калі яму паверыць,
Ён — дабрадзей,
Ён — за людзей,
На справе ж — мае воўчыя намеры.

## АСЁЛ АСЛОВІЧ

*Здарылася аднойчы так,*
*Што захварэў на ферме Бык-важак,*
*А статак трэба весці ў поле.*
*Паблізу ж не было нікога болей,*
*Адзін Асёл ля пуні аціраўся.*
*Яму і даручылі гэту справу.*
*Асёл узяўся за яе рухава,*
*Абрадваны, што дачакаўся*
*Такой увагі і пасады гэтай.*
*Ён строем вывеў статак на палетак.*
*Сачыў за ўсімі,*
*Не пускаў далёка,*
*Трымаў паблізу ўсіх,*
*На воку.*
*А хто не слухаўся (заўважым тут між намі),*
*З аслінымі той знаўся капытамі.*
*— Чаго да нас чапляешся ты ўсё,*
*Шаноўны дзядзечка Асёл! —*
*Заўважыла цялё і змоўкла на паўслове:*
*— Я не Асёл табе!..*
*Для ўсіх — Асёл Асловіч! —*
*Зароў тут наваспечаны важак*
*І разышоўся так, што жах!*
*І з той пары у статку ў адно слова*
*Утрылі усе:*
*— Асёл Асловіч!..*
*— Асёл Асловіч! Мілы наш, парайце...*
*— Асёл Асловіч, вы не наракайце...*
*— Асёл Асловіч, нам дазвольце гэта...*
*— Асёл Асловіч, вамі абагрэты...*

— Асёл Асловіч — гэта галава...
А у адказ адно:
— У-ва! У-ва-а!
І так Асла да часу велічалі,
Пакуль наш Бык зноў статак не ўзначаліў.
І знік аслінь ў статку крык і гром —
Асёл звычайным зноўку стаў Аслом.

Замест маралі даў бы я параду:
Асобу трэба паважаць, а не пасаду.

## ДЫСЕРТАНТ

У інстытуце аспірант Яфрэмаў
Займаўся дужа важнаю праблемай.
Не спіць наш бедалага і не п'е, не есць —
Вісіць праблема, бы на шыі гіры:
Саскоў карова мае шэсць,
А доіцца з іх усяго чатыры.
Чаму чатыры?
А калі б даілася хоць пяць,—
З праблемай гэтай трэба разабрацца!—
Дык вунь на колькі б можна ўдой падняць!
Яна б давала літраў дваццаць пяць,
Калі цяпер дае, напрыклад, дваццаць.
Дык то ж адна карова. А калі іх сто?
Была б прыбаўка літраў на пяцьсот.
За дзень — пяцьсот!
І ніякіх выдаткаў.
Рака малочная цякла выдатна
З чарніліцы і — проста на паперу.
Фантазія ж не ведала ўжо ні мяжы, ні меры,
Круцілася, бы нейкі калаўрот.
Разлікі ўжо рабіліся на месяц і на год.
І не на сто кароў.
Яфрэмаў смела
Прыбаўку падлічыў і па рэспубліцы,
І па Саюзу ў цэлым.
Нарэшце, ўзяў не пяць, а шэсць саскоў.
Калі б усе яны давалі малако,
Яго было б, як той вады ў рацэ.
Ну, словам, хоць купайся ў малацэ.
І ўсё падлічана старанна,

Тэарэтычна ўсё абгрунтавана,
Хоць сёння навуковую давай ступень.
— Але ж тэорыя без практыкі
ёсць спарахнелы пень,—
Сябры сказалі.
І неяк раз
Яфрэмаў заспяшаўся у калгас,
Каб даказаць такім вось малаверам,
На практыцы тэорыю праверыць.
Прыехаў у калгас ранюткім часам.
(А старшыня разумны быў у тым калгасе.)
Ён выслухаў Яфрэмава ды кажа:
— Прыбаўка дужа многа важыць.
Але не будзем ставіць вам рагатак:
А для навукі выдзелім вам статак.
Адна умова: тое малако,
Што з дадатковых атрымаеце саскоў,
Сабе бярыце, самі спажывайце,
А болей не дадзім, не наракайце.
Дык згодны?
— Згодзен! — адказаў Яфрэмаў.
Рашаць прыняўся ён сваю праблему.
Хадзіў ён ля кароў і так, і гэтак,
Ў калгасе прасядзеў амаль што лета,
Стаптаў там не адны пантоплі,
А малака не атрымаў ні кроплі.

Прызнацца, іншы раз
Такія дысертацыі страчаюцца і ў нас.
Ды з іх, як і з таго казла ўсё роўна,
Ні малака, ні воўны.

## ДУБ І ГРЫБ

*У дрэў-суседзяў на віду*
*Рос Дуб,*
*Развесіўшы свае шырока шаты.*
*Камель яго —*
*У некалькі абхватаў.*
*Такіх Дубоў, бадай,*
*Не знойдзеш болей —*
*Ён волатам стаяў*
*Над наваколлем!*
*І познім вечарам,*
*і ранкам*
*Магутны Дуб лавіў маланкі.*
*Часамі застываў у задуменні.*
*І аглядаў ён лес. Прыемна*
*Было так Дубу-волату...*
*Аднойчы*
*Разбуджаны быў волат ноччу,—*
*Пачуў ён галасок сярдзіты:*
*— Па-добраму*
*З дарогі лепш сыдзі ты!*
*А не — дык паднатужуся ледзь-ледзь —*
*Табе на гэтым месцы не ўсядзець!*
*— Ты хто такі?*
*— Я — Мухамор!*
*Я — цар сярод грыбоў адзіны,*
*Расту я не па днях,*
*А па гадзінах.*
*Мне месца не саступіш —*
*Дык у імгненне*
*Я выверну цябе з карэннем!*

Ды Мухамор, як ні стараўся,
Ні напінаўся,—
Як Мухаморам быў,
Так Мухаморам і застаўся —
Засохнуў, спарахнеў і болей не прыўзняўся.
А Дуб, як і раней,
Над наваколлем
узвышаўся.

## СУСТРЭЧА

*Якіх здарэнняў не бывае ў ноч*
*пад Новы год!*
*Ну, ўзяць бы гэтае. Хоць і не ў іх натуры,*
*А года Новага прыход*
*Задумалі адзначыць Куры.*
*На седала рашылі не садзіцца,*
*як заўсёды, рана,*
*А загадзя падрыхтаваліся старанна —*
*У складчыну сабралі усяго патроху:*
*Адна прынесла бульбіну, другая*
*дзесь знайшла гароху,*
*А трэцяя ў дадатак*
*Прынесла некалькі зярнятак,*
*Каб быў дастатак за сталом.*
*І справа стала толькі за пітвом,*
*Якое Певень абяцаў прынесці.*
*Даўно ўжо час за стол прысесці,*
*Ды Певень дзесьці затрымаўся...*
*А дзе?*
*Калі у краму ён спяшаўся,*
*З ім адбылося гэткае здарэнне:*
*З суседняга двара сустрэў другога Пеўня.*
*— Вітаю, браце, з Новым годам!*
*Не шкодзіла б нам з гэтае нагоды...*
*Пайшлі далей. Ідуць ды размаўляюць.*
*А тут і трэцяга, нарэшце, сустракаюць.*
*І вось, пакуль ісці дадому,*
*Рашылі прапусціць па чарачцы, вядома,*
*Спачатку па адной за стрэчу,*
*для прыліку.*

Затым яшчэ... Затым пайшло скарэй...
Пілі за Новы год ужо без ліку.
Забыліся пра дом і пра Курэй.

Я словы гэтыя належным чынам
Пад Новы год адрасаваў мужчынам.

## ІНДЫК І ПЕВЕНЬ

*На сметніку, напэўна,*
*Індык сустрэў аднойчы Пеўня*
*Ды кажа так яму:*
*— Сусед,*
*Мы раіліся тут усе,*
*А зразумець цябе ніяк не можам:*
*Чаму ты ноччу нас трывожыш?*
*Усім яшчэ так хочацца паспаць,*
*А ты, бы нейкі недарэка,*
*На золку пачынаеш вэрхал узнімаць,*
*На ўсё ваколле кукарэкаць.*
*Ні нам і ні сабе ты не даеш спакою.*
*— Э, любы мой сусед, з табою*
*Я пагадзіцца не магу ніяк,—*
*Спакойна адказаў наш Певень так.—*
*Калі б не я, дык ноч была б бясконцай,*
*Ніколі не настаў бы дзень.*
*Я ж разганяю ночы цень,*
*Не проста кукарэкаю — я клічу сонца!*

*Вось так і іншы пустазвон*
*Пераканаць спрабуе, што, калі б не ён,*
*Даўным-даўно усё прапала б,*
*І нават сонца не ўставала.*

## ЛІСА І МОДА

Вядома, што Лісіцы любяць моду.
А гэтая — звышмодніцай была
(Такая удалася ўжо ад роду).
Пражыць і дня Лісічка не магла,
Каб дзе чаго не пераняць,
Каб на сябе чаго не начапляць.
І днём, і ноччу модамі без толку
Была занятая лісіная галоўка.
«Фу, рыжыя! —
З пагардаю сястрычкам
Казала модніца-Лісічка.—
Ад суму з вамі я памру тут...»
І вапнай выбеліла футра.
І да чаго пасля дайшла, дурніца! —
Надумала з хвастом, нарэшце,
Разлучыцца:
Маўляў, хвастатыя цяпер не ў модзе.
І вось аднойчы ў карагодзе
Схапіла — раз! —
Адсекла хвост дашчэнту!
І стала моднаю на ўсе
На сто працэнтаў.
За што і паплацілася.
Аднойчы
Сабакам трапіла на вочы.
І тыя, як вядома, не зявалі —
Лісу пагналі.
З хвілінай кожнаю
Больш страху наганяюць,
Вось-вось, здаецца, даганяюць.

*Каб хвост —*
*Ліса б управа ім вільнула,*
*Сама ж — налева павярнула —*
*І ўспамінай, як звалі.*
*А так сабакі модніцу дагналі...*

*Калі разважыць аб усім цвяроза,*
*Дык трэба мець і ў модзе розум.*

# ПЕВЕНЬ І АНКЕТА

Аднойчы Певень запаўняў анкету
Пры ўладкаванні на работу
(Патрэбна дзеля формы гэта).
Размашыста і са стараннем
Ён напісаў і прозвішча сваё,
І ўзрост,
І званне.
На кожны пункт даваў адказы.
І раптам разгубіўся нейк адразу,
Замітусіўся без патрэбы.
Наліўся чырванню ягоны грэбень.
Пачырванела і пад падбародкам.
І адступаць хоць быў ён неахвочы,
А тут пакінуў кабінет таропка,
Не глянуўшы нікому прама ў вочы.
«Хай спрахне назусім, праклятая анкета!» —
Ішоў і абураўся Певень гэтак,—
Нібы бяльмо, вось гэты пункт пракляты:
Ці халасцяк я, ці жанаты.
Які ж я халасцяк? Чубатак
Нямала на вяку сваім я перасватаў.
А ў іх жа, пэўна, ёсць і кураняты.
Ды напішы вось так,— задумаўся,
падняў угору вейкі: —
Дык застанешся і без гонару,
І без капейкі!..
Не, дудкі!»
І пайшоў, задраўшы грэбень,
Шукаць сабе другое месца Певень.

## КАМАР-ЗВАНАР

Руплівая Пчала ад рання
Над кветкамі кружыла на паляне,
Збіраючы па кропельцы нектар,
Паблізу з ёй кружыўся і Камар.

І, згледзеўшы Пчалу, рашыў, што на паляне
Ён ад яе ніколі не адстане.
«Перазваню!» — ён з думкаю такою
Лятаў за ёю.

Кружыў, звінеў Камар той без развагі.
Пчала ж на гэта не звяртала ўвагі,
Яна над кветкамі кружыла
Ды ў вулей мёд насіла.

Камар таксама ўслед за ёй насіўся,
А вечарам сказаў:
«Як я змарыўся».

Вядома, тут не Камара
Я меў на ўвазе.
Але каго?
Хай сам чытач разважыць.

## РАДАСЦЬ

*Радасць завітала ў маю хату,*
*Мая радасць плача.*
*Мне ж здаецца,*
*Што я самы чалавек багаты,*
*Шчаслівейшы ад усіх на свеце.*
*Проста пад сабою ног не чую,*
*Ўсё бягом, і не магу іначай.*
*І мяне сустрэчныя віншуюць*
*З радасцю,*
*Што ў маёй хаце плача.*
*З раніцы, ад самага ад золку*
*Слухаю я розныя парады.*
*Нават дзеці нашага пасёлка*
*Ведаюць, якая ў мяне радасць.*
*Маю хату радасць асвятліла*
*Ўцехаю жаданаю, адзінай:*
*Мне сягоння жонка нарадзіла*
*Сына!*

## ЦЕШЧА ВІНАВАТА

*З даўніх часін,*
*З даўніх паданняў*
*На языку,*
*Як апраўданне,*
*Фраза крылатая:*
*— Цешча вінаватая.*

*З раніцы ходзіць*
*Ходарам хата:*
*Жонка ці цешча? —*
*Хто ж вінаваты?*
*Хто верхаводзіць дома?*
*— Цешча, вядома.*

*Сварка ў сям'і,*
*Сварка адносная:*
*З жонкаю муж*
*Высвятляюць адносіны —*
*Рэўнасць заела праклятая.*
*Цешча і тут вінаватая.*

*Можа быць горшае...*
*Хто ж рушыць згоду,*
*Каб іх давесці*
*Аж да разводу,*
*Хто ж іх каханне*
*Знішчае да рэшты?*
*— Вядома, цешча!*

*Так вось гавораць*
*Нярэдка у злосці,*

Але ж да цешчы
Едуць у госці.

Не абмінаюць
Яе стараною.
Хто ж вінаваты?
Цешча віною.

Хто ж вінаваты,
Што ўнучкі і ўнукі
Просяцца к цешчы
Заўсёды на рукі,
З ёю звычайна
Жывуць немаўляты?
Цешча і тут вінавата.

Хто ж вінаваты
У гэткай нагодзе,
Што з жонкай і сёння
Жыву я у згодзе?
Мушу прызнацца, урэшце,
— Ведама, цешча.

# УСЁ ЦЯЧЭ, УСЁ МЯНЯЕЦЦА

Сказаў, сцвярджаюць, Геракліт,
Што ўсё цячэ і ўсё мяняецца.
Той афарызм, як маналіт,
Усім на дзіва не сціраецца.

У гэтым месяцы яшчэ
Здалі на «добра» дом, як маецца,
А сёння ў доме дах цячэ
І ўвачавідкі ўсё мяняецца.

Няспраўны кран — цурчыць вада,
Сантэхнік недзе прабаўляецца.
Для жыхароў жа зноў бяда:
Усё ад сырасці мяняецца.

У прадаўшчыцы недаліў —
Бакалы пенай напаўняюцца.
З той пены будуць «Жыгулі» —
Усё цячэ, усё мяняецца.

Штангіст браць чарачкі мастак —
Да чорцікаў ён напіваецца.
Раней быў чалавек-мацак,
А час бяжыць — і ўсё мяняецца.

Я, можа, фарбы тут згусціў,
Бо недахопы выпраўляюцца.
Што ж, можна гэта дапусціць,
Бо ўсё цячэ, усё мяняецца.

## СОЛЬ І ПЕРАЦ

*Праз вякі і праз гады*
*Кажуць гэтак людзі:*
*— У пашане соль заўжды*
*Ёсць, была і будзе.*

*Без яе — хоць падай-стой,*
*Дрэнь, як кажуць, справа,*
*Без яе — трава травой*
*Нам любая страва.*

*Соль — няйначай — гэта цуд.*
*Я скажу тут болей:*
*Каб спазнаць каго, дык пуд*
*Трэба з'есці солі.*

*Як ні глянь ты на яе,*
*Соль — ва ўсім аснова.*
*Нават слова без яе —*
*Не такое слова.*

*Калі трэба дзе «падліць»,*
*Крышачку «працерці» —*
*Трэба слова падсаліць*
*Ды яшчэ й падперчыць.*

*Калі ў чымсьці не лады,*
*Схібіць хто, саб'ецца,*
*Лекі выдадуць тады —*
*Падсыпаюць перцу.*

*Каб нам жыць і не тужыць,*
*З суму не памерці:*
*Дзе патрэбна — падсаліць,*
*Ну, а дзе — падперчыць.*

## СПРЭЧКА З ЛЕКТАРАМ

Чытаў у клубе добра лектар
Пра неба, пра зямную шыр,
Даводзіў нам і так, і гэтак:
Няма і бога, і душы.
І тут падняўся дзед харобра
І гэтак гутарку пачаў:
— Пра бога гаварылі добра,
Я на яго даўно начхаў.
Пацвердзіць кожны можа гэта:
Яго я выгнаў за парог.
А вось наконт таго прадмета
Ты тут перахапіў, дальбог.
Хоць і не дужы я ў асвеце,
А ўсё ж, браток, як ні кажы,
А быць, а жыць на белым свеце
Як чалавеку без душы?
З агульных правілаў бывае
І выключэнне іншы раз.
Ды толькі век не выстаўляе
Ніхто бяздушнасць напаказ.
Сядзіць, напрыклад, ва ўстанове
Чыноўнік, а не чалавек.
На словах — ён на ўсё гатовы,
На справе — не скранецца век
І з месца, каб дапамагчы дзе,
Каб нешта нейкае рашыць...
Да вас з душой такі не прыйдзе,
Бо сам не мае той душы.
Альбо яшчэ. Набыў абутак,
Напрыклад, я ці хто другі.

Не пранасіў і двое сутак,
А ўжо скідай яго з нагі.
І зноўку паўстае пытанне:
Мо скажаце, што працаваў
З душой, як кажуць, і стараннем
Той майстар абутковых спраў?
Ды не! Ва ўсім — малым, вялікім —
Гарыць і свеціцца спярша,
Як сонца ў кропельках шматлікіх,
І чалавечая душа.
Чужою хто бядою ўзрушан,
На дапамогу хто прыйшоў,
Не кажам пра такіх: бяздушны,
Гаворым: чалавек з душой.
Не ведаў хто заўжды спакою,
Гарэў, нідзе не адставаў,—
Ён жыў і працаваў з душою,
Душу ён справе аддаваў.
Дык як жа зразумець вас, лектар?
У нас гавораць з веку ў век:
Калі хто без душы, дык гэта,
Прабачце, ўжо не чалавек.

## КІМ ЛЕПЕЙ СТАЦЬ...

Бывае: падумаеш гэтак употай,
Якую б — ды з выгадай! —
выбраць работу.
Пасаду б такую — прыбыткаў каб мора...
Мо лепей бы стаць мне кінарэжысёрам?
Бо дзе ні паглядзіш — тактоўна і чыста
Звялі рэжысёры амаль сцэнарыстаў,
Пазбавілі іх самастойнае працы.
Няцяжка, вядома, нам тут здагадацца,
Як гэта бывае.
Задумы і мары
Уклаў сцэнарыст у свой новы сцэнарый.
Пасля той сцэнарый,
хоць, праўда, не скора,
Нарэшце, трапляе да рэжысёра.
А ў рэжысёра свае думы-мары —
Ён так перакроіць той новы сцэнарый,
Што хоць на сааўтарства ты не ахвочы,
А стаў яго прозвішча, хочаш — не хочаш.
І проста і гладка — сумесная праца...
А можа ў тэатр лепш за ўсё ўладкавацца?
Там, кажуць, жывецца таксама не горай...
Ну, гэтым... Ну, як іх? Ну, рэжысёрам...
Яны, як казалі, таксама шчыруюць
І аўтара добра такі марынуюць,
Быў толькі б фуганак
ці нейкі там гэблік,
Калі тым сааўтарствам сам не пагрэбваў.
Дык чым не жыццё тут?
Чаго засмучацца?

А можа б у крытыкі лепей падацца?
Праглядвай, чытай, перачытвай навінкі.
Хай пішуць, а ты выпраўляй іх памылкі...

І гэтак у думках, бывае, лунаю,
А кім лепей стаць? —
І па сёння не знаю.

## ВЯСНУШКІ

Грыміць на рэках крыгаход.
Злізала сонца покрыў снежны.
Вясна стаіць каля варот,
Трымае у руках падснежнік.

Вароты — насцеж! Добры дзень!
Заходзь! Будзь госцяю жаданай!
І па зямлі Вясна ідзе
І прыбірае ўсё старанна:

Абрусам засцілае луг,
Сады ўбірае дбайна ў квецень...
Як гаспадыня, без патуг
Запрэгла і вясновы вецер.

Такі ў яе заўсёды лёс —
Усё перайначваць безупынку.
І дзіва-дзіўнае з дзівос —
На тварах у дзяўчат крапінкі.

Не празявайце гэты дзень,
Чаргу займайце, рагатушкі!
І без чаргі, і па чарзе
Вясна раздорвае вяснушкі.

## НАША ЗАСТОЛЛЕ

Кухары мы, кулінары,
Аб адным мы толькі марым,
Аб адным мы дбаем толькі,
Каб хапала ўсяго з гакам,
Каб стол гнуўся ад прысмакаў,
Каб і выбар быў па густу.
Вось вам свежая капуста,
Вось салацік толькі з градкі,
Ешце, ешце, калі ласка!
Вось вяндлінка, вось каўбаска
Толькі, толькі што з патэльні.
Ешце шніцэль! Смачны вельмі.
Вось катлеты адбіўныя,
Языкі вось заліўныя.
Мы гасцям заўсёды рады.
Свежы карп пад марынадам
Пададзім на стол, як казку.
Ешце, ешце, калі ласка!
А як трэба што да чаю —
І да чаю мы ўсё маем.
Вось ляжыць, бы кветка, торт —
Сам ён просіцца у рот.
Шчыра запрашаем вас:
— У любы заходзьце час!

## ЦЫРКАЧ

*Наш брыгадзір Антось — цыркач,*
*Не скажаш тут іначай,*
*І хоць спявай ты або плач —*
*Яго не перайначыш.*
*Ён дзень у дзень, як калаўрот,*
*Снуе без дай патрэбы.*
*А справы ўсе — наадварот,*
*Ідуць не так, як трэба.*
*Вось, скажам, вывезлі мы гной...*
*Ну, на палі, вядома.*
*Не зааралі ў час — і ён*
*Не гной ужо — салома.*
*Затое сёлетняй зімой*
*(Далася яна ў знакі)*
*З саломы атрымаўся гной*
*За ніпанюх табакі.*
*Альбо: на ферме — гразь, вада.*
*Кароў чуваць рыканне,*
*А у паілках — зноў бяда! —*
*Вады няма і звання.*
*І так усюды і ва ўсім.*
*І кажуць людзі жартам:*
*— Тут не брыгада — нейкі цырк,*
*Які глядзець не варта.*
*Як нам такое назіраць?*
*Як даць Антосю рады?*
*Яму б у цырку выступаць —*
*Не кіраваць брыгадай!*

## ГОРА-ЭКСПЕДЫТАР

Экспедытар не па ўласнай волі
Ветрагонаў Станіслаў не раз
Гаварыў у роспачы:
«Даволі
Марна траціць дарагі мне час!»
Часта ў інстытуце чуў на лекцыях
(Пажаданні там цяклі ракой):
«Ваша справа — перш за ўсё селекцыя,
Мяса каб было і малако».

Пажаданні —што й казаць — найлепшыя,
Бо наказ той — поспеху выток.
Толькі крокі ў гаспадарцы першыя
Павялі зусім у іншы бок.

Не паспеў, як кажуць, і агледзецца,
Падступіць к селекцыі на крок,
Старшыня сказаў яму:
«Расседжвацца
Ў нас табе не выпадзе, браток.
Той наказ забудзь на час, як водзіцца,
І адсунь яго пакуль назад,
Разважаць тут доўга не даводзіцца,
Спешна едзь на мясакамбінат.

Там прыём жывёлы штось зрываецца,
Значыць, страты зноўку будуць нам.
Вось і пасядзіш там, паваждаешся,
Покуль уладкуеш справы там.
А затым...»

*Затым — пайшло-паехала...*
*Што ні дзень, ні месяц, што ні год.*
*Справы неадкладныя з прарэхамі*
*Закружылі, нібы калаўрот.*

*Разважаць не будзеш, як на лекцыях,—*
*Любай справе часу не знайсці...*
*...Дарагая, мілая селекцыя,*
*Як жа да цябе мне падысці?*

# СПОВЕДЗЬ ПАДХАЛІМА

«Падхалім ды падхалім...» —
Шэпчуцца за вочы...
У маёй бы скуры ім
Пабываць аднойчы.

Паспыталі б «каравай»,
А калі б прыпекла,
Зразумелі б, што не рай
У мяне, а пекла.

Што не рай — не гавары,
Можа быць прамашка:
Падхалімам быць, сябры,
Цяжка, вельмі цяжка.

Тут асобны трэба нюх,
Каб не быць на мелі:
Ўстаў начальнік сёння з дзвюх,
А ці толькі з левай?

І асобны мець сакрэт
На любое выйсце —
Як зайсці у кабінет
І назад як выйсці?

Трэба ведаць мне, між тым
(Каб не змог надзьмуцца),
Як сагнуцца перад ім
І як разагнуцца.

Толькі гэта іншы раз
Мне вылазіць бокам...
Запытаць хачу я ў вас:
Хіба ж гэта лёгка?

## «БЮРО ДАВЕДАК»

Ёсць у мяне сусед-дзівак,
Ён вып'е і як след закусіць.
Затым — на гэта ён мастак —
Любую павядзе з дыскусій.
У курсе ўсіх зямных турбот,
Ад вас таіцца ён не стане
Пра перарод, пра недарод,
Дзе што было і ў які год —
Даведнік па усіх пытаннях.
Спытайце, дык сусед і ў сне
На запытанне вам адкажа:
Калі ў Сібіры выпаў снег,
Калі растаў ён на Каўказе.
Калі ж хто ў гутарцы кране
Пытанне цэн, дык безупынку
Ён назаве, не праміне,
Якія цэны дзе на рынку —
Пад Кіевам і пад Масквой,
Пад Талінам і пад Калугай,
Пад Тулай і пад Кастрамой
І нават за Палярным кругам.
Аднойчы так сказаў ён мне,
А гаварыў, нібыта марыў:
— Эх, яблыкі ў якой цане
У тым далёкім Нар'ян-Мары!
А ў нас іх — проста гаць гаці.
А колькі страт, а колькі глуму!
А там за яблыкі — плаці!
Плаці — і немалую суму.
Ва ўсім ён праяўляе спрыт,

Ён адчувае нюхам-спрытам
І што сягоння дэфіцыт,
Што заўтра стане дэфіцытам.
Здзіўляешся такому, каб
Адзін ён мог так многа ведаць...
Ну, не сусед, а проста скарб,
Сапраўднае бюро даведак.
І не прафесар, і не ўрач,
Не быў экскурсаводам зроду.
...Усяго ён наўсяго «штурхач»,
Якіх нямала на заводах.

# ТВОРЧЫЯ ПАКУТЫ

Маладзіка на небе серп
Над дачаю павіс.
А Станіслаў, па клічцы Сверб,
Ледзь за сталом не скіс.

Сядзіць. А кнігі — па баках.
Паперы чыстай стос.
Знаёмы свежай фарбы пах
Яму казыча нос.

А думкі мрояцца ў яго,
Ніяк іх не суняць.
Артыкул трэба. Пра каго?
Ну, пра каго пісаць?

Вось кніжку новую Якім
Яму прэзентаваў.
Слабая кніжачка,
Ды з ім
Даўно пасяброваў.

Хоць быў з Якімам угавор,
Дзе трэба — падтрымаць,
Ды вельмі ўжо слабенькі твор,
Як пахвалу пісаць?

А можа ўсё ж нафугаваць?
Адсохне хай рука,
Што ўздумае крытыкаваць
Суседа-дружбака!

Артыкул трэба вось якраз,
Бо папракнуць, што Сверб
Не заўважае бегу час
І сённяшніх патрэб.

А мо падсыпаць незнарок
У крупнік Тамашу
Жмень колькі перцу, як урок,
Каб апякло душу?

Яно-то так, ды і не так,—
У вершы ён слабак,
Ды перчыць юшку ён... і як!
На юшку ён мастак!

А можа Янку крытыкнуць,
Хоць, праўда, ён зямляк...
Не, не! У Янкі на куццю
Якія клёцкі?! Смак!

Не варыць нешта галава,
Што хочаш тут рабі:
Рыбачыў з тым, з тым паляваў,
А з гэтым чарку піў...

Пісаць на іх нейк не з рукі,
Тым больш крытыкаваць.
Куды ні глянеш — дружбакі.
Дык пра каго ж пісаць?

Маладзіка на небе серп
Даўно ўжо не вісіць.
А Станіслаў, па клічцы Сверб,
У роздуме сядзіць.

# КРОКІ

* * *

Кім ты б ні быў — ці лётаеш высока,
Ці пад вадою ходзіш, вадалаз,—
Твая дарога пачалася з кроку,
Які ў жыцці зрабіў ты першы раз.

І машыніст, і слесар, і вучоны,
І майстар адмысловага ліцця
Былі там першым крокам заручоны
На ўсё жыццё з дарогамі жыцця.

* * *

Наш першы крок... Здаецца, ён падобен
На слова і на першае «у-га».
І важна, як быў першы крок той зроблен
І як ступіла ўпершыню нага.

І першы крок заўжды мяне трывожыць,
Каб чалавек зрабіць той крок умеў —
Бо можна стаць на слізкую дарожку,
А там — і пакаціўся, загрымеў.

* * *

Я часта заўважаю у маркоце,
Як іншы ўкрыў ідзе і наўскасяк.
Павее ветрык — і яго пакоціць...
Няўжо ж хадзіць яго вучылі так?
Не, не і не!
Ды ўсё ж якімсьці чынам

Быў крок той першы зроблен.
Можа так:
— Ды не крывіся,
Выпі!
Ты ж — мужчына!
Цяпер — які мужчына? —
Проста так...

* * *

Здаецца,
разарвецца ён на часткі,
Каб дагадзіць начальству, як мага.
І тупае каля свайго начальства
Не чалавек, а тупае дуга.
Яго ж, напэўна, людзі навучалі
У тых мясцінах,
дзе ён жыў і рос,
Каб на дарогах,
На любых скрыжалях
Хадзіў,
Не гнуўся,
Крочыў ва ўвесь рост.

* * *

А бюракрат...
А хабарнік...
А злодзей...
А хуліган,
Што ўжо даваў зарок...
Не так яны, як іх вучылі, ходзяць
І не туды скіроўваюць свой крок.
Дык дзе ж крыніцы бруднай той вытокі
Учынкаў іх на грэшнай на зямлі?
І дзе пачатак тых лявацкіх крокаў,
Якія ў стан такі іх прывялі?

* * *

Здараецца, такое ўчуеш з болем:
І ў нас, як і ў любой сям'і, не без...
Маўляў, не ўсюды роўна родзіць поле,
І не аднолькавы усюды лес.

Яно, вядома, тут не запярэчыш.
Ды толькі ад таго душа баліць,
Што некалі харошая малеча
Цяпер дарослым пудзілам глядзіць.

* * *

Мы па зямлі хадзіць прывыклі горда,
Вырошчваць хлеб, узводзіць гарады,
Наш крок заўсёды ўпэўнены і цвёрды,
Да мэты ён скіраваны заўжды.

Наш час — змагар за шчасце ва ўсім свеце,
Каб засціць сонца хмары не маглі.
Няхай смяюцца звонка ўсюды дзеці,
Упэўнена хай крочаць па зямлі.

## РАЗМОВА

*— Здароў, Кузьміч!*
*— Здарова, брат!*
*— Скажы, ты слухаў мой даклад?*
*І як жа слухаў? З захапленнем?*
*— Прыйшоў я крыху са спазненнем,*
*Аднак даслухаў.*
*Толькі ноччу*
*Ніяк не мог заплюшчыць вочы.*
*— Даклад усхваляваў цябе? Я рады...*
*— Не, выспаўся у час даклада.*

## МАРГАЛКА

Клім Іванавіч Маргалка
Узначаліў гаспадарку.
І ўсе справы з таго часу
Закульгалі у калгасе.
Пра любыя недаробкі
Гаварыў заўжды таропка.
На палях гніе салома...
— Тут віна мая, вядома.
У хлявах жа іней белы...
— Так, мы тут не дагледзелі.
Клуб таксама не ўцяплілі...
— Так, мы гэта упусцілі.
Ад другіх зусім адсталі...
— Тут, як кажуць, прамаргалі.
Гаспадарка ж, як снег, тае.
Старшыня адно — маргае.
Ды кіруе гаспадаркай
Дзе-нідзе такі Маргалка.
Каб там справы йшлі да ладу,
Старшыню б змаргнуць з пасады.

## ПАСЛЯ ЛЕКЦЫІ

*«Гарэлка, п'янства — сацыяльны біч!*
*Мірыцца з гэтым нам ужо даволі!» —*
*З натхненнем гаварыў Іван Фаміч*
*Пра шкоднасць тых напіткаў з алкаголем.*
*«Пакончым з п'янствам!» —*
*пад канец сказаў.*
*З трыбуны злез, накіраваўся ў залу.*
*Яго сябры віншуюць, акружылі:*
*«Цудоўна прачытаў, Іван Фаміч!*
*Па выпадку такому б — магарыч!»*
*І што ж вы думалі —*
*пайшлі і «замачылі».*

## ЗАХВАРЭЛА АГРЫПІНА

Без ніякае прычыны
Захварэла Агрыпіна.
Людзі ўсе ідуць у поле,
А ў яе дзесь штосьці коле,
Як заколе, як падверне —
Абарвалася, напэўна,
Штось ўсярэдзіне ў жанчыны.
— Ой, маю як крышыць спіну,
Ой, як ломіць паясніцу...
— Дык паехала ў бальніцу б
Ці схадзіла б у аптэку —
Там табе прыпішуць лекі,
Што рабіць, параяць, можа.
— Ой, нішто не дапаможа
Мне з хваробаю ліхою —
Нарадзілася такою.
Як не гэтае, дык тое.
Што паробіш ты з бядою.
Агрыпіна так заўсёды
Енчыць-плача пры народзе.
Калі ж пойдуць людзі ў поле,
Дык тады не чуе болю.
На сваім на агародзе
Да дзесятага мо поту
Напрацуецца ў ахвоту,
А затым — зноў ледзьве ходзіць.
Вы б пабачылі на рынку
Калі-небудзь Агрыпінку:
Зноўку там не чуе болю —
Выступае ў іншай ролі.

Выбар у яе багаты:
Ранняю вясной — салата,
Кветкі першыя на рынак
Носіць шчодра Агрыпіна.
Першы ўкроп, цыбулі строчкі,
Памідоры, агурочкі,—
Ўсё прадаць яна тут зможа.
А цана — дык крый нас божа!
Лепш не знаць яе ніколі.
Агрыпіна на прыволлі
Гандаль развяла шырокі,
А на працы — дык марока.
Людзі ўсе ідуць у поле,
А ў яе дзесь штосьці коле,
Захварэла зноў, нябога,
Не паможа тут нічога —
Ні бальніцы, ні аптэкі.

Трэба іншыя ёй лекі.

## ВЯРОВАЧКА ЎЕЦЦА...

Ён будзе клясціся: ніколі, ні разу...
Што база не крама,— напомніць дарэчы.
А сам тую базу усюды аблазіў,
Цягае дамоў дэфіцытныя рэчы.
Глядзяць на такога,
Здзіўляюцца людзі:
Шанцуе ж: глядзіце,
Ён крадзе — не судзяць.
Калгас для яго, нібы тая прынада,
Мо пяць разваліў ужо іх да асновы.
Змясціць у адным не паспеюць з пасады,
Глядзіш — ён калгас узначальвае новы.
Глядзяць на такога,
Здзіўляюцца людзі:
Шанцуе ж —
Разваліць калгас — і не судзяць.
«Развод... Разлюбіў...
Не магу...» — ён ляпеча.
І што яму жонка, і што яму дзеці.
А ён жа жыццё чалавеку скалечыў,
І можа яшчэ не адно пакалечыць.
Глядзяць на такога,
Здзіўляюцца людзі:
Шанцуе ж такому —
Не садзяць, не судзяць.
«У Брацк — калі ласка!
На ўсход — не адмоўлю!» —
Ён месяц — на ГЭСе, другі — каля домны.
Лятае з адной на другую будоўлю.
Каб толькі пабольш праязных і пад'ёмных.

Глядзяць на такога,
Здзіўляюцца людзі:
Шанцуе ж —
Транжырыць усё — і не судзяць.
Цудоўны наш час пралятае ракетай.
Узводзім мы дом камунізма над светам,
Будуем, ствараем, шукаем...
А гэта...
А гэта мінуўшчыны племя адпетае.
Глядзяць на такіх вось,
Здзіўляюцца людзі...
Вяровачка ўецца —
Канец усё ж будзе!

## СПОВЕДЗЬ РЫБАКА

Яно як завярэдзіць —
І рад ты ці не рад,—
А дома ўжо не ўседзіш,
Не утрымаюць нат
Ні жонка і ні цешча,
І нават сваякі...
На золку сабярэшся,
Шыбуеш да ракі,
Каб захапіць куточак,
Плацдарм, як на вайне,
Дзе рыбы той, браточкі,
Нібыта ў чыгуне.
Не рэчка — проста міска,
Бяры і лі нагбом,
А хочаш — чэрпай лыжкай,
Бы дома за сталом.
Такое й не прысніцца,
Тут можна паглядзець...
Вось толькі б не спазніцца,
А першаму паспець.
Уяўляю сам, як буду
Над рэчкаю сядзець.
У руках трымаю вуду,
Хаця б не праглядзець...
Нарэшце!
Мітусіцца
На хвалях паплавок.
А мне ўжо не сядзіцца,
Не церпіцца, браток.
Чакай...

*Чакай...*
*Нырае!*
*А раптам як сарве?*
*Імгненне!*
*Вось такая! —*
*Трапеча на траве.*
*А навакол — прыгожа!*
*А час той — не суняць!*
*І клёў такі! — што нельга*
*І словам перадаць.*
*...Сяджу, вось гэтак мару...*
*Я б паляцеў, дальбог.*
*Ды жонка, нібы хмара,*
*Як толькі на парог,*
*Мае яна намеры*
*Кляне і сяк і так.*
*Патрапіў, нібы ў нерат*
*На досвітку шчупак.*
*Сядзі і ўнукаў гушкай —*
*Вось лёс мой, рыбака.*
*А недзе — пахне юшкай*
*І плешчацца рака...*

# ПАДАРУНКІ ДА 8 САКАВІКА

Ажыўлення ўсюды рух —
Клопатаў багата.
Роўна па календару
Прыкаціла свята.
Завітала на парог
К нам належным чынам.
Разгубіліся і з ног
Збіліся мужчыны.
Дзе прыскокам, дзе бягом
У святочным тлуме
Абмінаюць гастраном,
Атакуюць ГУМы.
І такія ўсе наўздзіў,
Ну, як дзеці, прама.
З сівізною, вунь, камдзіў
У чарзе таксама.
Вунь пісьменнік. На Парнас
Так не лез бы, пэўна, —
Ля прылаўка ж тут якраз
Выглядае пеўнем.
Не адбіцца ад пралаз,
Не знайсці ратунку:
Падавай ім экстра-клас,
Экстра-падарункі!
І выстойваюць падчас
У чарзе гадзіны.
...І ўсё гэта дзеля вас,
Дзеля вас, жынчыны!

## ЗАВОДСКІ АНСАМБЛЬ

Скажу па-шчырасці я вам
(Пацвердзіць гэта кожны):
Грымеў наш завадскі ансамбль,
Грымеў, як толькі можна.

Ён выстаўляў нам напаказ
Рэпертуар багаты.
І ў клубе завадскім штораз
Ён выступаў на святы.

Прыхільнасць заваёўваў ён,
Яго паслухаць — люба!
Грымець пачаў на ўвесь раён,
Радзей — у родным клубе.

І ўсё званчэй, званчэй гучаў.
І ўжо без астаноўкі
На вобласць ён грымець пачаў,
А ў родным клубе — змоўкнуў.

А слава ўсё расла — ого!
І ўжо цяпер, няйначай,
Глядзім і слухаем яго
Па тэлеперадачах.

Глядзім, а на душы шчыміць:
Адкуль такое ліха? —
Наш завадскі ансамбль грыміць,
А ў нашым клубе — ціха.

## ЗДАРЭННЕ З БРЫГАДЗІРАМ

Здаўна павялася гаворка такая,
Што п'янаму бог сам дарогу ўступае.
Любіў брыгадзір наш такую гаворку,
Калі запраўляўся «вадзіцаю» горкай.
Ідзе ён — ніхто не трапляйся на вочы,
Калі непрыемнасцей розных не хочаш.
Аднойчы яго падвяла ўсё ж сівуха...
...Ішоў брыгадзір наш пад добраю «мухай».
Ішоў, як звычайна, хістаўся... І многім
Прыйшлося ўступіць брыгадзіру дарогу.
І раптам — о, божа! — аж ахнулі людзі,—
Раз'юшаны бык на дарозе, што будзе?
Магчыма, ад статку адбіўся, задзіра.
І вось ён насустрач ідзе брыгадзіру.
Яго усё гэта, напэўна, здзіўляла,
Што наш брыгадзір, як ні ў чым не бывала,
Ішоў на збліжэнне, выводзіў заўзята:
«Бывайце здаровы, жывіце багата...»
І бык тут спыніўся, нацэліў рагамі,
Зямлю стаў капаць пад сабою нагамі...
Здзівіўся і наш брыгадзір ад такога:
Як гэта яму не ўступаюць дарогу?
А бык — ані з месца, прырос да дарогі.
Імгненне —
Паддзеў брыгадзіра на рогі.
І трэба сказаць вам, браткі, па сакрэту:
Пайшло на карысць брыгадзіру ўсё гэта.

## ВУСЫ

### (ЖАРТ)

Адрасціў мой Саша вусы,
Прыгажун стаў — хоць куды!
Я вусамі ганаруся.
Ды праз вусы — нелады.

Пасміхаюцца дзяўчаты,
Як мяне сустрэнуць дзе:
Ты глядзі, маўляў, вусаты
Вакол пальца абвядзе.

Я ўсміхаюся таксама:
— Нас вадой не разальеш,
Мне, прызнацца, ён з вусамі
Падабаецца нат лепш.

А у вёсцы — ці то ўранні,
Ці то вечарам ідзеш:
«Вусачыха», да спаткання...
«Вусачыха», добры дзень...

І таму сказаць я мушу
Пры сустрэчы першай з ім:
— Буду так кахаць!
А вусы?
Вусы, мілы, ні пры чым!

## ТЭЛЕФОН

*Дзе б ні пачуў што важнае*
*Ці плётку ні падслухаў —*
*Другому скажа усё роўна па сакрэту ён —*
*На вуха.*

## КАЛЯНДАР

Адлічвае ён дні, мінулыя падзеі
І з кожным днём худзее...

## З ПЕРШАГА ПОГЛЯДУ

*Як глянуў,*
*дык адразу закахаўся,*
*Але ў адказ чуў*
*толькі адны кпіны.*
*Бо закахаўся —*
*вось у чым бяда ўся —*
*Ён не ў дзяўчыну,*
*а ў яе машыну.*

## СЯБЕ ПАДВЁЎ

— Ах, «Жыгулі»! —
Загадчык базы
Ўздыхнуў.—
Набуду іх адразу!..
І стаў цягнуць —
Сябе падвёў:
Ні базы і ні «Жыгулёў».

## ЗДРАДЛІВЫ ЛЁС

*— Тым трэба жыць,*
*Што набяжыць,—*
*Казаў заўжды Выносаў.—*
*Бяры, дзе дрэнна што ляжыць,*
*У разявак з-пад носа.*
*І без разбору браў і нёс —*
*Ці мала там, ці многа...*
*Яму, нарэшце, здрадзіў лёс —*
*Яго ўзялі самога.*

## ВАЯКА-ЗАБІЯКА

Малых ён пеўнікаў усіх
Дзяўбаў, як мог. Напэўна,
Ён быў дужэй за ўсіх за іх.
Ды раптам сцішыўся, прыціх
Перад сапраўдным Пеўнем.

## ЯГО МЕТАД

*Ён кожны часопіс прагледзіць,*
*Заўжды прагартае газеты,*
*Што знойдзе — праз сіта працэдзіць,*
*Затым зарыфмуе ўсё гэта.*

*Чужыя сабраўшы усходы,*
*Ён зноўку іх сее у друку...*
*...Народзіцца рыфма заўсёды,*
*Была б толькі знойдзена думка.*

## ЗАКАПАЎ

Пісьменнік твор свой новы напісаў.
Цяпер над ім ён ночы каратае,
Бо так глыбока думку закапаў,
Што сам яе ніяк не адкапае.

## НА ЛЕКЦЫІ

*Ён так чытаў, што ў зале — ні-ні-ні:*
*Ні шэптаў не было, ні рухаў.*
*Нат муха не парушыць цішыні —*
*Заснула на ляту і муха.*

* * *

— Чаму на працы не відаць Глафіры?
— Глафіра — жонка брыгадзіра.
— Чаму ж на сходзе першаю Глафіра?
— А як жа — яна жонка брыгадзіра.

* * *

*— Усё ты для мяне, мая каханая,*
*Мая бясцэнная, мая жаданая,*
*Мая ты ластаўка харошая!..*
*— Дай божа толькі, каб апошняя...*

## АБАЗНАЎСЯ

— Ого, які вы клуб сабе займелі!
— Дык гэта ж домік старшыні арцелі.
— А там што за пакрыўлены ў вас зруб?
— А то ж і ёсць наш клуб.

## ПЛАНАВІК-АДВОЛЬНІК

*Плануе часта ён на вока,*
*Бо сам у справу ён не ўнік.*
*І планы ад жыцця далёка,*
*Як гэты самы планавік.*

## ЭПІТАФІІ

### Падхаліму

На рознай працы ў розныя гады
Ён гнуў перад начальствам сваю спіну.
І толькі распластаўся ён тады,
Калі яго паклалі ў дамавіну.

### П'яніцы

Нябожчык быў і сапраўды мацак —
Больш літра асушаў за... так.
Яму б, нябогу, жыць яшчэ ды жыць,
А ён, як бачыце, даўно ўжо тут ляжыць.

### Ананімшчыку

Хто ён такі? Што здарылася з ім?
Як пры жыцці, і тут ён ананім.

### Лайдаку

Усё жыццё ён марыў пра той час,
Калі не трэба будзе варушыцца.
Збылася мара гэтая якраз —
Ён тут цяпер уволю наляжыцца.

### Плеткару

Не плёў ён плёткі толькі на каго!
І колькі нерваў папсаваў ён людзям.
Не вытрымалі нервы і яго —
Сюды пайшоў. Пляткарыць больш не будзе.

## Перастрахоўшчыку

*Канаў — не пакідала хваляванне:*
*Ці ўзгоднена з кім-небудзь пахаванне?*

# МАЛЫМ КАЛІБРАМ

## Рукі лайдака

Гарачы час. І кожная рука
У гаспадарцы летам на уліку.
Хоць рукі, праўда, ёсць і ў лайдака,
Ды тыя рукі толькі для прыліку.

## На працы

Лайдак не любіць працаваць,
А любіць толькі спажываць.
Напэўна, трэба здаравяку
Заўжды падносіць кукіш з макам.

## Дамавіты

Мікіта жах быў дамавіты —
Не выйдзе з дому наш Мікіта
Ні да сяброў, ні прагуляцца,
І нават не хадзіў... на працу.

## Дапрэміраваўся

Хоць планы не выконваў зроду,
А атрымоўваў прэміі заўсёды,
Бо на прыпіскі быў ён зухаваты...
Цяпер не атрымоўвае й зарплаты.

## Няўпэўненасць хвалько

Славутых мог пералічыць, дальбог.
Сказаць, што снедаў з тым, а з тым абедаў,

*Адно сказаць дакладна ён не мог:*
*Яго самога хто з славутых ведаў?*

**Завочнік**

*У вочы ён — добразычлівец,*
*Гарохам сцелецца, няйначай.*
*За вочы ж — дык такі зласлівец,*
*Якіх даўно ўжо свет не бачыў.*

**Рэха**

*Так павялося ўжо спрадвеку*
*(Тут не адняць і не дадаць):*
*Каб нарадзілася дзесь рэха,*
*Спачатку трэба пагукаць.*

**Звычка хабарніка**

*Ён з гэтай самае пароды,*
*Што бачыць ва усім выгоду.*
*І за нязначную паслугу*
*Бярэ з усіх і нават з друга.*

**Заўсёды першы**

*Ён першы новага начальніка вітаў.*
*Быў на віду ў таго і меў спагаду.*
*Калі ж начальніка знялі з пасады,*
*Ён першы з ім вітацца перастаў.*

**Усё пад дуб**

*Дубовы стол. І крэсла з дуба.*
*Пад дуб падведзен кабінет.*
*І тут дубовым думкам люба*
*Сядзець і не глядзець на свет.*

## Пісьменнік-падарожнік

На сходзе, пленуме ці з'ездзе —
Хвалілі адным словам недзе
Не тое, што ён напісаў,
А як і дзе ён выступаў,
За тое, што ён многа ездзіў.

## Раўнапраўныя

Гаворыць жонка гэтак мне спакойна:
— Мы здатны, як і вы, на справы слаўныя:
Не толькі на зямлі мы з вамі роўныя,
Цяпер і ў космасе мы раўнапраўныя.

Я выслухаў такое урачыста.
Другое мне прыйшлося не па густу:
Калі яна, напрыклад, бульбу чысціць,
Я ў гэты час, браткі, крышу капусту.

## ЗМЕСТ

### Байкі



### Гумарэскі

**Мініяцюры**



Эпітафіі

**Правасуд Ул.**

П 68 Соль і перац. Мн., «Маст. літ.», 1976.

96 с. з іл.

Кнігу «Соль і перац» склалі новыя байкі, гумарэскі і мініяцюры. Уладзімір Правасуд выкрывае бюракратаў, падхалімаў, гультаёў, якія пакуль не перавяліся і перашкаджаюць нашаму руху наперад. Творам маладога паэта ўласцівы пільнасць назірання і трапнасць гумарыстычных дэталяў.

$П \frac{70403\text{-}013}{М\ 302(05)\text{-}76}$ 48-76

**Бел 2**

На белорусском языке

Владимир Григорьевич Правосуд

СОЛЬ И ПЕРЕЦ

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак Б. А. Забораў. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар В. В. Шарамета.

АТ 04212. Здадзена ў набор 10/VI 1975 г. Падп. да друку 4/XII 1975 г. Тыраж 9000 экз. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 3,75. Ул.-выд. арк. 2,82. Зак. 2398. Цана 29 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

